# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год......12р. —
На поугода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захарауская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

**Год выдання II.**



Цана асобнаго № 40 кап.

Ніхай жыве Вольная Беларусь!





№ 9. 1918 г. 17-го сакавіка 1918 г. № 9.


## Ен ні згіне...

(Настрої).

Ці дзялю я свой сум с цішынею,
Ці жартую с сябрамі над чарай,
Перад мысльлю таемна маею
Ніадступнай, назойлівай марай,
Як жывы, як бы узяты з натуры,
Усе малюецца вобраз пануры:

Як калосся у жытнім полі
стаяць людзі на рауніне;
Бытцам вецяр каласочкі,—
гэтак сум іх прыхіляе.
Ані шэпту! Часам толькі
мацъ-зямліца уздыхае:
«Ой, пагіне... Усе пагіне!»

Захавaушы слонцо, укрылі
небо ймглішчы і туманы;
Ніпагодай край, здаецца,
ад прадвеку той забраны;
І ні кліч яму ты долі:
гіне зык тут нізваротна;
Заміpae слово нават...
Ах, маркотна!

Усе мне вобраз цяжкі той здаецца,
Ці адзін, ці хаджу між людзей я..
Толькі-ж... раптам, часамі прарвецца,
Бы шаленство якое, надзея:
С-пад сьвятых нябес блакіту
Праманіста сонцо зьяе
І дзяцей зямлі з нябыту
І з заніку паднімае.
І буяе духам вольным
Той народ, што на рауніне
І жывець жыццем давольным...
— «Ен ні згіне! Ен ні згіне!»

19/III 18г. **А. Гарун.**

## „Пауночныя Балканы“.

Пад гэткаю назваю зьявілася у заграгічным друку стацця францускаго публіцысты Вільям'а Мартэн'а. Віленская беларуская газэта «Гоман» у № 19 ад 5-го сакавіка, знаемячы з зьместам намяненай стацці, разважае пытанне, ці мае слушнасьць увага Мартэн'а, калі ен перасьцярагае вялікія дзяржавы ад утварэння дробных дзяржавау паміж Нямеччынай і Расіей,—«пауночных Балканау».

Тлумачучы прычыну безупынных сварак і змагання паміж балканскімі народамі, Вільям Мартэн бачыць паутарэнне абмылак 1872 г. у ціперашнюй палітыцы Нямеччыны. Нямецкія дэлегаты прызналі правэ народау: Курляндзія, Літва, Эстляндзія, Ліфляндзія, Польшча, Беларусь, Украіна жадаюць нізалежнасьці. Тым часам, усе гэтыя народы так перамешаны між сабою і маюць такія супрэчныя інтарэсы, што спауненне іх пажаданняу будзе ніпакоіць усю Эуропу. Толькі Польшчу аутар адгэтуль вылучае.

«Ніхай так»,—піша «Гоман»;—«можам сьмела сказаць, што, апрыч ніпамерных апэтытау яе (Польшчы) на нашу зямлю, нас с Польшчай нішто ні злучае. Запрауды: павэдлуг нацыянальнаго складу, Польшча рэзка аддзеляецца ад усіх суседзяу; эконамічных інтарэсау, супольных с Польшчай, мы зусім у нас ні бачым, а старыя успаміны аб калішнім супольным дзяржауным жыццю з ею у нас такія горкія, што і супольнасьць гістарычных традыцый адпадае. Мы зьвернемся за тое да рэшты народау, якія жывуць між Расіей і цэнтральнымі дзяржавамі,

На першым пляні стаяць два народы: беларускі і літоускі, каторыя зьвяртаюць на сібе увагу тым, што нацыянальныя і жыццевыя інтарэсы і гістарычныя традыцыі ні разьдзеляюць, а злучаюць іх у адно. Нацыянальныя,—бо маюць яны тых самых ворагоу, с каторымі ужо дауно змагаюцца за свой быт, бо цэнтр нацыянальнаго жыцця у іх супольны—Вільня, каторая, лежучы на этнографічным беларускім абшары, была супольнай сталіцай абодвых народау с таго часу, як тут залажылася Беларуска-Літоуская дзяржава пад імям Вялікаго Княства Літоускаго. Жыццевыя—бо беларускія і літоускія абшары складаюць адну вялізарную гаспадарку, жывуць адным эконамічным жыццем, у каторым зьеднало іх ад вякоу цягаценне да Балтыцкаго мора і цяпер зьвязывае дапасованая да гэтаго сыстэма дарог—чугунак, шассэ, а так само супольныя водныя дарогі—рэкі... Дый тое трэба адзначыць, што дзеля разьвіцця прамысловасьці на этнаграфічна літоускім абшары і дзеля збыту іх Літве патрэбны багатыя сырьем Беларускія землі, для каторых ізноу важна мець фабрыкаты літоускія, дастауленыя без аплаты мыт Урэшці, гістарычныя традыцыі у беларусау і літвіноу—тыя ж самыя: яны супольне стварылі сваю, некалі нізалежную, дзяржаву.

Вось-жа развязка пытання аб нізалежнасьці Беларусі і Літвы напрашываецца сама сабой: утварэнне дуалістычнай дзяржавы. зложанай з дзьвех аутаномных нацыянальных тэрыторый з аднэй найвышэйшай цэнтральнай уласьцю. Гэтак справа робіцца шмат прасьцейшай.

Далей, возьмем суседзяу Беларуска-Літоускаго краю. Для нацыянальных спорак між беларусамі і літвінамі—з аднаго боку, украінцамі і латышамі—з другога ніякаго грунту німа: ні водзін з гэтых народау ніколі ні выяуляу жадання панаваць над другімі; кожны мае зусім выразную нацыянальную тэрыторыю; эконамічныя інтарэсы іх ні разьдзеляюць, а злучаюць, прымушаючы шукаць саюзау і укладаць конвэнцыі аб прывозе вытворау адной стараны чугункамі другой, аб абмене прадуктамі і т. д.. Мы бачым, што між Украінай і Беларусьсю ужо некольки месяцоу ідзе супольная работа у беларуска-украінскай эконамічнай камісіі у Кіяві. Мы ведаем, што Курляндзія—пры безпасрэднай граніцы нашаго краю як з Расіей, так і Нямеччынай,—у такой жа меры мае карысьць з беларуска-літоускаго транзіту па чугунках яе, як мы—з доступу да латышскаго узбярэжжа мора.

Гэтак ні кажучы аб Польшчы, дзеля ніспакойства п. Вільям'а Мартэн'а ніякаго грунту німа. Мы сказалі: «ні кажучы аб Польшчы», бо запрауды, толькі з яе стараны мы бачым захватныя апэтыты на чужыя землі, выплываючыя ні са злой волі польскаго народу, а з ншчасьліваго географічнаго палажэння Польшчы. І тут перад Эуропай уздымаецца безспорна труднае пытанне: як супакоіць Польшчу?

Мы ні прабуем развязываць гэтаго пытання,—ніхай над ім папрацуюць вялікія дзяржавы. Але адно можам сказаць напярод: калі дамаганні палякоу маюць быць здаволены коштам таго ці іншаго с суседніх народау між Расіей і Нямеччынай, каторыя жадаюць поунай свабоды кожны для сябе, дык утворыцца ніколі нізажываючая рана, каторая і дасьць аснову дзеля „пауночных Балканау“».

Так, дзеля добраго суседзкаго нацыянальнаго жыцця Літвы і Беларусі перашкод німа, а дамаганні Польшчы крыюць у сабе цяжкія скуткі і для самой Польшчы. Згоды у Беларусі с Польшчай быць ні можа,—аб гэтым парупілася «палітыка на крэсах». Ненавісьць да усяго, што польскае,—вот плен працы гэтай палітыкі і заплата беларускаго народу за вякавы зьдзек і паняверку. Ні Польшчы ні Маскоушчыны,—Беларусь мае уласны шлях і з яго ні збочыць... **Я. Л.**

уніяцкае Распяцце, прыбітае у вуглу. З боку яго быу чорны абразок Юрыя, што калоу доугаю пікаю вужаку с трэмя галавамі, а з другога—на адной руцэ вісело меншае, чорнінькае Распяцце. Другая рука, разам с кавалкам крыжа, на якой была яна прыбіта, валялася кінутая на лаве,—от і увесь абставак каплічкі.

Лявон узяу гэтую руку і прыглєдзіуся, як старанна была вырэзана яна у старыя годы набожнаю рукою прыгоннаго чалавека.

Крануу лаўку, нага вывалілася. Так было усе. апушчана і убога.

І Лявон з нейкай дажэ радасна-злой прыемнасьцю, якая бывае у дзіцёнка, калі ен, пасьля крыуды, выстагнецца і надумаецца, як памрэць, і усе будуць па ем плакаць, гэтак Лявон падумау: «Ніхай жа ні спраудзіліся тыя ранейшыя лятуценні аб зьверхней культуры краю, аб тым кладзішчу з мурававай аградаю, с прыгожаю капліцаю, с падрэзанымі дрэуцамі, кветкамі, крыжамі, памятнікамі з дарагога камення, вянкамі, крылатымі анелам̃і, песчанымі чыстымі сьцежачкамі.

Ніхай жа. Вот нічога ні збылося, ні задалося, і усе астанецца, як было соткі год. Заваленыя крыжы, зрытыя сьвіннямі магілы.

Бо ні памагалі Лявону у тых дасьціжэннях, а шкодзілі і насьміхаліся. Самі вінаваты.

І ен тут мусіць ляжэ з усімі. І яго могілку зрыць падсьвінак, а крыж, чухаючыся, заваліць.

Яшчэ раз азірнуу убогае роднае кладзішчо.

— Сьпіце, родныя, і мяне жджыце гэтымі днямі!

Пераскочыу цераз канаву і пашоу па мяжы да шляху.

Ні-то дым, ні-то туман быу далека-далека на небасхілі, пры лесі. Сллася часам белая павучына. Ужо засохлі камкі на заскароджанай паласе жыта. А на другой, калі прыглєдзіцца, ужо вылезьлі чырвоныя, малюпаценькія расточкі—руць.

Калі падходзіу к шляху, с-пад лесу відаць клубіуся пыл. Ехалі паны па парцы стаеннікау. Зьляцелі з гары на гаць, затарахцелі па гаці, па хворасту і мяллю і забабэкалі па масту.

— «Вот яны—гаспадары краю, каго павінны праклінаць мы. А можа не? Які народ, такія паны. Не. А маем права праклінаць прэдкау вашых. Апалячыліся, ці абмаскалелі, калі родны народ астауся самім сабою. Тыя веру зьмянілі, ды ні здолалі «хлопау» перавярнуць. Край згубілі, пад уладу чужых аддалі. Вот і панаехало ж іх у вашыя дзедаускія родныя і рукамі бацькоу нашых здабытыя, маенткі—гнезды, панаехало праклятых.

А народ адзін, нішчасны і пакінуты.

Праўда, шкода вас, трагічна і ваша панская доля, ды—ну вас, праклящце на вас за нідбаласьць вашу.

Вы панавалі, і родны край прапанавалі. Сьляпыя!

Вот згнілі вашыя палацы, заглохлі і высячаны сады і аллеі, заплылі і зарасьлі копаныя рукамі дзядоу маіх пруды і ставкі, зьедзены мышамі дарагія малюнкі і кнігі, усе гіне і прападае без карысьці дзеля роднаго народу.

Праклящце на вас!

Вот выходжу за край гнілога жалкаго гнезда вашаго і што я бачу?—Быццым толькі што праклядзеныя, гразныя, вузенькія дарожкі. там-сям шырэйшыя, абсаджаныя па загаду царыцы-немкі бярозамі: гаці, лады і балоты; куча хатак. як куча гною: цераз дзесятак верстау—убогая цэркаука мужыцкая ці касьцел,—і усе, і уся культура відочная, усе спадкаемство, што пакінулі сыном гэтай старонкі бацькі іхныя..

Бо вы панавалі, балявалі, па заграніцах езьдзілі, а дома жылі замкнуушыся у сваіх палацах сярод безконцаго, пустэльнаго мужыцкаго мора, што крывавымі мазалямі з убогай зямлі золато вам выскрэбало...

Так абурыуся Лявон і сам сабе дзівавау, што шчэ здолен так распаляцца па прызвычцы, як быццым то ні усе роуна цяпер.

Фаэтон легка пракаціуся міма Лявона. Паня с сумнымі, дэлікатнымі вачамі пільна зірнула у яго бок і кіунула чуць прыкметна, калі датыкнуся брыля. Можа дзівілася, адкуль ен сярод тутэйшай пустэльнасьці?

Старая паня, пад чорным вуалем, і галавы ні павярнула.

Лявон пайшоу па шляху у другі бок, ні к дому, а у Б.

— Самагубство...—часам шэптау ен.

Гжацк. 1916г. **М. Гарэцкі.**

---

## Дарога.

**Я. Колас.**

Ад кургана да кургана,
Ад гая да гая
У пяць нітак легла цьмяна
Пуціна крывая.
То лясок, то луг, то поле,
То лужок зялёны...
Эх, прастор, эх, воля, воля
Да балот разгоны!..
І куды бяжыш, дарога,
Ткань нагі і кола?..
І маўчыць пуціна строга,
Безатказны долы.
Ну, што ж? далей, гайда далей,
За узгоркі тыя...
Ні стрымацца нам: мы—хвалі
Ціхія рачныя.

## Высокі Бераг.

Высокі Бераг, родны мілы!
Люблю я твой пешчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Кацоў гранічных цэлы рад.
Люблю я лес, што над табою
Высока ўзьняў свае камлі:
Зьвіліс карэнні над вадою,
Як бы вянок табе спляли...
Бруіцца Нёман мелкаводны
У тваіх прыўдалых берагох,
У лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шэпат у чаратох.
Высокі Берag, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазьнякоў.

1915 г.

## Разстанне.

Вечарэло і ціхало,
І гушчэлі цені;
Поле моўчкі пазірало,
Лес быў ў задуменні,—
Той стары лес, праз камары
Наша йшла дарога,
А пад намі, на прасторы
Божаго разлога
Хмаркі згодна йшлі куды-то
Сьветлай чарадою.
Сумам даль была спавіта,
Як мы йшлі с табою.
Удоўж дарогі разрасталісь
Высілісь хваіны,
І маўчалі, ні гайдалісь
Лапы іх, галіны.
Пастаялі, разьвіталісь
Мы с табой у лесі,
Разышліся, пахавалісь
У густым навесі
Маладых ялін і хвояў
І бярроз пахучых.
Жаль разстання сэрцо кроіў,
Ціхі жаль, пякучы.
Я спыніўся—сэрцо млело,
Сумна стало у лесі,
Толькі лісьцяе шапацело,
Бы той дождж па стрэсі
У вечэр восені пастылы,
У змрок спавіты шэры,
Як твой вобраз зьнікнуў мілы,
Дарагі без меры.

## Восянь у гаю.

Гай заціх, бы зачарован,
Гук і сьпеў яго пахован.—
Гай сумуе і маўчыць,
Бы душа у час зьмеркання;
Толькі песьней пахавання
Вецер у лісьцяю зашуміць,
А яно паміж камлямі
Залацелькімі роямі
Заснуецца, задрыжыць
І на дол, ужо зьмяртвелы,
Так пакорна, так нісьмела
С ціхім шэляхам ляціць...
Ціха у гаю і маркотна,
Толькі лісьцячко гаротна
Штось-то смутнае гудзе.
У гэтай мові ападання
Песьню сумную зьмеркання
Думка чуткая вядзе.

**Якуб Колас.**

## Што робіцца у Мінску?

Перажыўшы у новай абставі пару тыдняў, Мінск уваходзе ў звычайную калею жыцця. Крыху ішчэ трудна прывыкаць да нікаторых парадкаў, злашча да тых, на якія німа ішчэ ніякіх законных пастановаў.

Так, праўдзівай балячкай абыватэляў-мінчан зьяўляецца «курс рубля». Справа гэткая: спачатку, як толькі паявіліся нямецкія акупацыйныя грошы, ішлі яны па свайму звычайнаму курсу; (г. зн., па цане, якую і паказуе лічба даннай паперкі); праз пару дзён гэтыя ж самыя паперкі пачалі ісьці у двойчы вышэй за расійскія (за 1 рб. расійскі давалі 50 кап. акупацыйных). Праз дзён пару зноў «курс апаў» і «акупацыйны» рубель раўняўся расійскаму рублю. Гэтак «курс» «падаў» і падніма̃ўся ужо некалькі разоў. Як цяпер «стаіць курс» і сказаць трудна: амаль ні кожная крама мае сваю уласную «разцэнку», свае на гэта погляды і свой «курс». У нікаторых рубель «керэнскі» лічыцца меньшым за «царскі» рубель, другія акупацыйныя грошы лічуць у двойчы даражэй і г. д.. Путаюцца рахункі с «керэнкамі», «мікалаеўскімі», маркамі, акупцыйнымі... Ускаламуцілі мінскія гандляры «курс рубля» і у гэтай муце ловюць у сваю кішэню і ні дробную рыбу...

Зносін з Расіяй, а нават і з бліжэйшымі гарадамі, покуль што, німа.

Группа пачтовых чыноўнікаў хоча арганізаваць местовую почту. З гэтай прапазыцыяй зьвярнулася яна да гарадзкой управы.

Прэдстаўнік Гарадзкога харчовага к-ту вядзе перагаворы з гэрманскай уладаю, каб улада памагла у харчовай справі. Яму абецалі, што нямецкая улада пойдзе на сустрэч: нібаўна выдавацімо яна прадукты патрэбныя для шпіталяў, прытулкаў і г. д..

Гадаўшчына рэвалюцыі прашла ціха і спакойна. Ніякіх сходак, ні маніфэстацый ні было.

Штодзенна адтрымліваюцца Віленскія газэты, у тым ліку і «Гоман», які зьеднаў сабе шмат прыхільнікаў сярод мінчан.

## Уселякія весткі.

### Камісар па справам окупацыі.

Як даведываецца «Lok Anz.», мае быць назначан нямецкі імперскі канцлер дзеля спраў занятых зямель у прыбалтыцкім краю і ў Літве з мейсцам бытнасьці ў Бэрліне.

У гэтым урадзе мае быць сконцэнтровано палітычнае і эконамічнае упраўленне гэтых зямель, дык гэта паказвае, што на Ліфляндзію і Эстляндзію у справах праўна-дзяржаўных угледаюць а так само, як на Літву і Курляндзію.

На становішчо камісара бытцым-то ужо намечан праўдзівы тайны надрайчы і цяперашні дырэктар прускаго міністэрства сельскай гаспадаркі, граф Робэрт Кэйсэрлінг. Як вядома, ён знаходзіцца цяпер у Румыніі.

### Літэратура і навука.

**Школьныя падручнікі, выданыя у Вільні у часі нямецкай акупацыі (1915-1917 г.).**

1) **Родныя Зерняты** Кніжыца для школьнага чытання. Год II і III, навучэння. Лацінкаю, стр. 240, з рысункамі Зложыў В. Ластоўскі.
2) **Першая Чытанка.** Кірыліцай і лацінкаю, стр. 64) Кніжыца для беларускіх дзетак дзеля навукі чытання. Зложыў В. Ласт..
3) **Новы Лемэнтар**—для беларускіх дзетак. (Лацінкаю, з рысункамі, стр. 32). Зложыў і выдаў Янка Станкевіч.
4) **Задачнік** для пачатковых школ. Год I, II і III навучэння. Г Юрэвіча. Пераклад В. Л. (лацінкаю, стр. 112).
5) **Выпісы з беларускай літэратуры** Аддзел I. Пробкі літэратурнай мовы XIII—XIX сталецця. (лацінкаю, стр. 16).
6) **Выпісы з беларускай літэратуры.** Аддзел II. Духоўныя песьні. (лацінкаю, стр. 16).

**Іншыя кніжкі, выданыя у Вільні у часі нямецкай акупацыі (1915-1917 г.)**

1) **Нашы песьняры.** Літэр турна сомыяльныя нарысы Антона Навіны. (лацінкаю, стр. 84).
2) **Каліся.** Сцэнічны абразок на 2 акты Ф. Алехновіча (кірыліцай, стр. 32, in 16).
3) **Што было і што будзе.** Адбітка з газэты «Гоман» Петры з Арэнат. (лацінкаю і кірыліцай, стр. 24, in 16).
4) **Загадкі.** Сабраў і выдаў В. Ластоўскі. (лацінкаю, стр. 24 in 16).
5) **Эконамічная эволюцыя і беларускі рух.** Адбітка з газэты «Гоман». А. Луцкевіч. (лацінкаю, стр. 16).

### «Абарона сталіцы»

Падчас пераменавання Пецербургу на Петраград, у Кіяві хадзіў па руках гэтакі верш украінскаго пісьменніка В. Самойленкі:

Плач і лемэнт у сталіцы:—
«Немцы йдуць!» Жахнуўся урад
І хутчэй зьбірае раду,
Як бы іх прагнаць назад.
«Ні давайма Пецербургу!»
Усе крычаць,—ен даў нам лад.
Ен-жа вогнішчо, з якога
Идзе збаўенны дым і чад.
Тут спачынак ад культуры,
Тут распусты пышны сад,
Дзе на скурах інародцаў
Сьпіць расійскі рэтраград.»
Ні прыдумалі міністры,
Як пазбыць свой заніпад.
— А паклічам старца Грышку,—
Ці ні дасьць які парад?..
Ен ні толькі для паненак
Повен чараў і прынад,
Ен прамудры, хоць і просты
Ен—дзяржаўных думак склад.»
Вось прышоў ен, і міністры
Па чарзе, усе стаўшы у рад,
Ла рукі яго прыпалі,
Рускі творучы абрад.
І тагды, па цалаванню,
Ен сказаў ім: «Ну, наўрад
Спадзевацца вам ратунку
Ад палкоў і ад брыгад.
Трэба шмат на гэта зброі
І ваенны увесь даклад.
Не,—найлепей я схаваю
Наш славэтны стольны град:
Хай ні знайдзе Пецербургу
Ні адзін нямецкі гад.»
Уздыхнуўшы, памаліўся
І пачухаў старац зад,
Ды рэчэ: «Ніхай жа—будзе
С Пецербургу Петраград!»

З 10-го нумару у „Вольнай Беларусі“ пачне друкавацца сьмяхотная штука у 3-х дзеях Вінцука Дуніна-Марцінкевіча „Зальоты“. Камэдыя гэтая напісана у 1870 г. мешанаю мовай польскай і беларускай і нігдзе ні друкавалася. Выпраўленая, яна зьявіцца у друку першы раз. Асобнаго выдання за хібнасьцю коштаў покі што ні будзе.

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.